# Голас Радзімы

№ 7 (2149)
15 лютага 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.


**З пачатку студзеня ў Мінскім Доме літаратара пачалі праходзіць вечары аўтэнтычнага фальклору, прысвечаныя 500-гадоваму юбілею Ф. Скарыны. Па задуме арганізатараў—Міністэрства культуры БССР, Саюза пісьменнікаў рэспублікі і Дзяржтэлерадыё—у аглядзе скарбаў аўтэнтычнага фальклору па чарзе прымуць удзел усе вобласці Беларусі. Першымі ў сталіцы выступілі жыхары Гродзеншчыны. Сваё майстэрства паказалі народныя музыкі з вёскі Рэманавічы Дзятлаўскага раёна І. Глушкевіч і Л. Мілеевіч, танцавальны калектыў з вёскі Ацьмінава, што на Навагрудчыне, а таксама шматлікія выканаўцы народных песень. У фае Дома літаратара былі прадстаўлены вырабы народных майстроў Гродзеншчыны—ткацтва, кераміка, разьба па дрэву, вырабы з саломкі. Прайшлі ўжо вечары чатырох абласцей. Рыхтуюцца да сустрэчы з мінчанамі народныя таленты з Гомельшчыны і Віцебшчыны.**

**НА ЗДЫМКАХ: танцавальны калектыў з вёскі Ацьмінава Навагрудскага раёна; спявае Любоў ЛОГУТАВА, загадчыца сельскага клуба з Клецкага раёна Мінскай вобласці; дудар А. ЛОСЬ з вёскі Зарудзічы Смаргонскага раёна; удзельнікі фальклорнай вечарыны з Мінскай вобласці.**

**Фота У. КРУКА.**










## КАГО ПРАДСТАЎЛЯЕ «САМВЫД»

# ПЛЮРАЛІЗМ У ДЗЕЯННІ?

Адно з самых модных сёння слоў — «плюралізм». З філасофскіх трактатаў і палiталагічных даследаванняў яно вырвалася на плошчы і вуліцы, мітынговыя трыбуны, у студэнцкія аўдыторыі, рабочыя клубы. З усіх бакоў толькі і чуецца: «плюралізм думак», «плюралізм поглядаў», «плюралізм меркаванняў»... Але, як гаворыцца ва ўсходняй прымаўцы, «колькі ні кажы халва, халва, халва, а ў роце саладзей не зробіцца». Што ж мы маем на справе?

Мяркую, ніхто не стане адмаўляць сучасныя дасягненні ў развіцці публічнасці і плюралізму. Пры ўсіх існуючых заганах нашага грамадскага становішча, рэцыдывах мінуўшчыны, даволі жорсткім супраціўленні новаму, яны ёсць і прызнаныя ў краіне і за мяжой. Ну а што ж на Беларусі? Абуджэнне грамадскай думкі не абышло і наш край. І як гэта звычайна бывае ў такіх выпадках, сілы прачнуліся розныя, з разнастайнымі праграмамі, мэтамі і сродкамі іх дасягнення. Адным з найбольш яскравых доказаў гэтаму стаў так званы «самвыд» — самастойна і саматужна выдаваемыя лістоўкі, лісткі, пракламацыі, невялічкія газеты.

«Гласность», дадатак да газеты «Альтэрнатыва» (выданне Сацыял-Дэмакратычнага саюза, як пазначана на тытуле); «Экспрэс», аднадзёнка Беларускага народнага фронта «Адраджэньне»; «Інфармацыйнае паведамленне», «Навіны» (усё таксама належыць БНФ); адно з апошніх — «Грунвальд», «Студэнцкая думка», орган студэнтаў канфедэрацыі беларускіх суполак»; «Паперабудова», орган Хаўруса Дэмакратычнае Моладзі (г. Менск)»; «Балесы Палісься» — даволі шматпрофільнае выданне грамадска-культурнага таварыства «Палессе»; «Шлях» выданне Баранавіцка-Берасьцейскага аддзялення БНФ»; «Кантроль», бюлетэнь таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Пералік можна працягваць. Але ніводнай з гэтых назваў нельга ўбачыць на прылаўках газетных кіёскаў, бо ўсё вышэйзгаданае менавіта той самы «самвыд». Разам з тым набыць выданні нескладана. Жвавых хлопцаў, гандляроў імі, можна рэгулярна сустрэць у вагонах метро, у парках, падземных пераходах. Яны хутка прапануюць свой тавар, доўга не затрымліваючыся на адным месцы: праганяе міліцыя (натуральна, калі на іх трапляе). Хто гэтыя хлопцы? Не ведаю. Але, здаецца, па ўсіх прыкметах, не «барацьбіты за ідэю». Хутчэй за ўсё, яны такім чынам прырабляюць якую капейчыну да мізэрнай студэнцкай стыпендыі альбо «грашовага забеспячэння», выдаваемага бацькамі.

Месца, дзе друкуюцца нелегальныя лісткі, не афішуецца па зразумелых прычынах: ніводная з суполак і арганізацый афіцыйна ў рэспубліцы не зарэгістравана, таму юрыдычна не мае права мець уласныя друкаваныя органы. Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці: адсутнасць статуса, друкарскай базы, матэрыяльных сродкаў, напружанасць з паперай (з-за апошняга нават выхад рэспубліканскіх і цэнтральных газет трымаецца на мяжы зрыву), выдавецкая работа шматлікіх нефармалаў не спыняецца. Грошы збіраюцца дабрачынна, да таго ж ужо дае пэўны даход і папярэдні продаж (кошт аднаго экземпляра такога выдання ад 30 капеек да 1 рубля). Выходзяць лістоўкі на паперы, якая знойдзецца, часам нават абгортачнай, таму фармат у іх часцей невялікі, а шрыфт дзеля эканоміі плошчы выбіраецца найменшы. Друкуюцца яны не толькі ў Беларусі, значная колькасць — у суседняй Прыбалтыцы. Але трэба адзначыць: ананімнымі гэтыя выданні, асабліва БНФа, не назавеш. Пад многімі артыкуламі стаяць подпісы аўтараў, а ў канцы ліста прозвішчы адказных за выпуск, даецца паштовы адрас для водгукаў і пісьмаў.

Сваім знешнім выглядам вылучаецца першы нумар «Грунвальда» — газета на васьмі старонках, набраная добрым шрыфтам, у некалькіх колерах. «Грунвальд» — інфармацыйны бюлетэнь аднайменнага Беларускага культурнага таварыства ў Эстоніі, там жа і выходзіць. Але інтарэсы яго выдаўцоў ідуць значна далей за культуру. У нумары змешчана выбарчая платформа БНФ «Адраджэньне», выступленне З. Пазняка з аналізам сучаснага сацыяльна-палітычнага становішча ў Беларусі, вялікі артыкул В. Вячоркі да гісторыі беларускага нацыянальнага сцяга і г. д.

Якая ж скіраванасць беларускага «самвыда»? Дыяпазон меркаванняў вялізны. Але галоўная тэма амаль ці не ўсіх — радыкальныя пераўтварэнні ў рэспубліцы. Агульнае ж зводзіцца да некалькіх палажэнняў. Практычна ўсе аб'яднанні адмаўляюць кіруючую ролю КПСС і ў тым ліку, натуральна, КПБ, прэтэндуючы на яе самі. У сваіх выданнях нефармалы заклікаюць да дзяржаўнага і нацыянальнага суверэнітэту, пераходу да рыначнай эканомікі, да актыўнага ўдзелу ў выбарчай барацьбе за месцы ў Вярхоўным Савеце і мясцовых органах улады. У пэўных груп ёсць і ўласныя адметнасці. Напрыклад, таварыства «Палессе» хвалюе лёс не ўсёй Беларусі, а пінска-драгічынскага рэгіёна, які, па меркаванні лідэраў аб'яднання, мае права прэтэндаваць на поўную самастойнасць. Так званы Хаўрус Дэмакратычнай Моладзі не толькі друкуе адкрыта антыкамуністычныя выказванні, але кпіць і з БНФ «Адраджэньне», аўтары «Студэнцкай думкі» заклапочаны «стварэннем спэцыфічнае студэнцкае арганізацыі дзеля рашэньня ўласна студэнцкіх і агульнаграмадскіх задачаў» і г. д.




Мяркуючы па прыгаданых «самвыдаўскіх» лістках, сёння грамадства адчынена практычна для ўсіх палітычных павеваў. Сведчанне таму — артыкулы нефармальных аўтараў. Няхай сабе ім пакуль выказваць свае думкі нялёгка, але тым не менш, яны іх выказваюць, і нічога страшнага з імі не здараецца. Умовы зараз мяняюцца хутка. І не выключана, што праз нейкі час цяперашнія нефармальныя выданні (зразумела, значна ўдасканаленыя) будуць пазначаны ўжо ў падпісных каталогах. Бо ў савецкім грамадстве яўна акрэсліваецца тэндэнцыя не толькі да плюралізму слоў, але і дзеянняў, скіраваных у рэшце рэшт на стварэнне шматпартыйнасці. І, магчыма, сённяшні «самвыд» — першая ластаўка гэтага.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## КАНДЫДАТ У НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ

Ісці па вуліцах Косава з кандыдатам у народныя дэпутаты БССР Сяргеем Філіповічам прыемна. Усе прахожыя вітаюцца, ды і Сяргей Адамавіч амаль кожнага ведае ў твар. Зрэшты, дзіўнага ў гэтым нічога няма: гарадок невялікі, а мэблева-вытворчае аб'яднанне, дзе генеральным дырэктарам Філіповіч, тут самае буйное прадпрыемства. Пачынаў Сяргей Адамавіч на ім працоўную дзейнасць у 1954 годзе вадзіцелем. А ў 1961 стаў дырэктарам, невялікая фабрыка выпускала тады мэблі ўсяго на 300 тысяч рублёў.

Першае, за што ўзяўся малады спецыяліст, — падрыхтоўка кадраў. Адбіраў з мясцовых здольных хлопцаў, адпраўляў на вучобу ў тэхнікум, інстытут. І вось ужо амаль чвэрць стагоддзя прадпрыемства не зведвае патрэб у спецыялістах. Выраслі і магутнасці фабрыкі. Цяпер штогод на ёй вырабляецца мэблі на 14 мільёнаў рублёў. Асартымент пастаянна абнаўляецца.

Змяніўся і гарадок. Не без удзелу дырэктара аб'яднання ў ім, у асноўным, вырашана жыллёвая праблема. І калі існуе чарга, то на расшырэнне. Праўда, другая праблема цяпер хвалюе Сяргея Адамавіча: як навучыць людзей беражліва ставіцца да жылля. Вось і будаваць самі не хочуць, а прадпрыемства ж гатова дапамагчы і матэрыяламі, і грашамі.

Не кінуўся Філіповіч на злом галавы зарабляць і валюту, хаця вопыт гандлю з развітымі краінамі ёсць. Праўда, тады валюта «пра[illegible]ывала» міма маленькага [illegible]ка на Брэстчыне. Паступова [illegible]ндаль спыніўся. А цяпер, лічыць Філіповіч, трэба перш за ўсё насыціць уласны рынак, а ўжо потым шукаць надзейнага замежнага партнёра.

А зараз Сяргей Адамавіч зноў задумаў вялікую будоўлю. 2 мільёны рублёў укладзена ўжо ў фізкультурна-аздараўленчы комплекс з манежам, басейнам, трэнажорнымі заламі. Вялікія магчымасці атрымаюць мясцовыя жыхары для заняткаў спортам. Побач узводзіцца інтэрнат для спартсменаў. Да верасня гэтага года ў Косаве павінна адкрыцца дзіцяча-юнацкая школа алімпійскага рэзерву. Рабіць усё належнае, каб зямля наша стала больш прыстасаванай для шчаслівага жыцця, — такая сутнасць праграмы кандыдата ў народныя дэпутаты С. Філіповіча.



**НА ЗДЫМКУ:** кандыдат у народныя дэпутаты БССР генеральны дырэктар Косаўскага мэблева-вытворчага аб'яднання Сяргей ФІЛІПОВІЧ.

Фота А. ТАЛОЧКІ.





Цяплічны камбінат калгаса імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна штогод прыносіць у касу гаспадаркі каля мільёна рублёў чыстага прыбытку. Адсюль паступаюць у продаж агуркі, цыбуля, кроп, капуста. А з гэтага года тут пачалі культываваць раннія таматы, якія да гэтага высаджваліся толькі ў ліпені. Цяпер ідзе пасадка расады. Ужо к канцу красавіка ў гандлёвую сетку Мінска паступіць каля 120 тон памідораў. Сёлета будуць уведзены ў строй яшчэ 4 гектары цяпліц, што значна павялічыць збор прадукцыі.

**НА ЗДЫМКАХ:** глебу пад пасадку таматаў рыхтуе А. ВУСЬКО; пасадку расады ранніх таматаў вядуць Р. КЛІМОВІЧ і Н. БУРКОВА.

Фота А. НІКАЛАЕВА.

## АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

# ПАЧУЦЬ ЗВАНЫ ТРЫВОГІ

### БРАТ З'ЯВІЦЦА Ў ГАДЗІНУ НЯШЧАСЦЯ

Два дні ў канцы студзеня Беларускае таварыства «Радзіма» нагадвала хутчэй установу па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, чым грамадскую арганізацыю па культурных сувязях з замежнымі суайчыннікамі. Вялікія і малыя скрынкі з кардону, мяшэчкі спрэс запаланілі пярэдні пакой, звёўшы яго да памераў вузкага праходу, і частку залы. Спорна і дзелавіта разбіралі гэты багаж, змесціва аўтамабільнага фургончыка з заходнегерманскімі нумарамі, спецыялісты-фармаколагі на чале са старшым інспектарам-правізарам аддзела інфармацыі Беларускага аб'яднання «Фармацыя» Ганнай Старасценка. Імі ж вялося строгае і падрабязнае апісанне незвычайнай паклажы. Заклапочана завіхаліся супрацоўнікі «блакітнага» экрана, прэсы. Ішла падрыхтоўка да кульмінацыйнага, мажорнага акорда ў сімфоніі супераджывання, дабрадзейства, спагады да нашага болю — перадачы медыцынскіх прэпаратаў і лекаў, якія, па ініцыятыве і пры ўдзеле нашага суайчынніка з ФРГ Міхаіла Мельніка, сабралі евангельскія хрысціяне-пяцідзесятнікі гэтай краіны. Сабралі і перадалі раёнам Беларусі, найбольш забруджаным радыенуклідамі.

Прывёз Міхаіл Мельнік дарункі разам з нямецкім пастарам Гансам Олешам з місіі міласэрнасці Саюза свабодных пяцідзесятніцкіх цэркваў Германіі.

— Чакайце! — нібы чую я незадаволены вокліч чытача.— Аб гэтым ужо паведамлялася ў вашай газеце. І прозвішчы тыя ж самыя...

Сапраўды, ішла ўжо гаворка аб тым, што гэтыя людзі леташняй восенню перадалі таварыству «Радзіма» 10 тысяч аднаразовых шпрыцаў і медыкаменты ад тых жа ахвярадаўцаў. Але якраз у Таццянін дзень... Ды лепш паслухаць тлумачэнне рэдактара газеты «Голас Радзімы» Вацлава Мацкевіча, якое ён дасць падчас урачыстасці:

— У нас не заўсёды праяўляецца такая цудоўная якасць, якой валодае асоба набожная, — трымаць слова. У мінулы раз гаварылася аб мажлівасці новай сустрэчы. І вось праз два месяцы Міхаіл Мельнік і Ганс Олеш ізноў разам з намі. Я ўпэўнены: яны на гэтым не прыпыняцца. Прыміце, паважаныя госці, нашу бясконцую ўдзячнасць.

Хвалюючая цырымонія распачалася ўступным словам першага намесніка старшыні прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» Мікалая Васілёнка. Ён адзначыў:

— Гэтая другая партыя ацэньваецца ў 20 тысяч заходнегерманскіх марак. У ёй налічваецца 7 тысяч шпрыцаў аднаразовага выкарыстання, 16 скрынак з рознымі вітамінамі, 2 тысячы хірургічных пальчатак, 10 пакункаў з лякарствамі. Мы размеркавалі ўсё атрымае сярод пяці раёнаў Магілёўскай вобласці: Бялыніцкага, Быхаўскага, Крычаўскага, Клічаўскага і Кіраўскага...



І падкрэсліў:

— Міхаіл Мельнік першым з замежных суайчыннікаў усім сэрцам адклікнуўся на зварот шасці грамадскіх арганізацый Беларусі. Вялікае [illegible] і Гансу Олешу беларускае дзякуй.

Забягаючы далёка наперад, скажу, што перадаваліся пакункі непасрэдна з «рук» Беларускага таварыства «Радзіма» ў «рукі» кіраўніка службы міласэрнасці Чырвонага Крыжа Магілёўскай вобласці Надзеі Акулавай, старшыні Бялыніцкага раённага камітэта Чырвонага Крыжа Зосі Марозавай у прысутнасці прадстаўнікоў ЦК Таварыства Чырвонага Крыжа БССР Людмілы Марцьянавай і Мінскай абшчыны хрысціян веры евангельскай Аляксандра Мялюхава.

Такім чынам дом на Захарава, 23 стаў «нулявым» кіламетрам на шляху ахвяраванняў замежнай грамадскасці. Адсюль яны накіроўваліся ў бальніцы і аптэкі Магілёўшчыны.

— Усё, што мы атрымалі, знойдзе сваіх адрасатаў, не прападзе, дойдзе ў тэрмін, — запэўніла гасцей і прысутных Надзея Акулава. А з боку кіраўніцтва Беларускага таварыства «Радзіма» была зроблена слушная прапанова: калі Міхаіл Мельнік наведае Мінск наступны раз, завітаць разам у вызначаныя раёны.

Як і летась, сваё выступленне наш зямляк са Швабенланда пачаў з малітвы, а скончыўшы яе, расказаў:

— Я ўвесь час думаў, як лепш дапамагчы майму народу. Хадзіў з жонкай Айрын па бальніцах, аптэках. Моцную падтрымку атрымаў ад Ганса Олеша. Нямецкія браты па веры сабралі грошай, на якія мы закупілі пальчаткі. Шпрыцы і вітаміны прыйшлі са Швейцарыі. З трох тысяч пар пальчатак адну тысячу я падараваў Бараўлянскаму шпіталю, там працуе мая сястра. Засталося яшчэ 700 марак. Вырашайце, што з імі рабіць. Апроч гэтага, мы прывезлі веруючым і духоўную літаратуру.

«Хадзіў з жонкай Айрын...» Словы Мельніка перайшлі ў зону маёй падсвядомасці, і памяць імгненна ажывіла выразны, добра захаваны ёю эпізод, сведкам якога я быў у адной з мінскіх бальніц.

...Ніяк не мог уцяміць, чаму так расхвалявалася сужонства Мельнікаў, хвіліну таму пакінуўшы кабінет прафесара медыцыны Таццяны Бірыч. (У Айрын Мельнік былі складаныя праблемы са зрокам). І атрымалася, што на першы погляд звычайнае — клопат, увага савецкага ўрача — вырасце да памераў вышэйшых маральных катэгорый. Айрын Мельнік не знаходзіць слоў: Таццяна Бірыч просіць яе, немку па нацыянальнасці, жонку беларуса-эмігранта, якую лечыць, перадаць нямецкім сябрам пажаданні міру, шчасця. А ў самой амаль усю сям'ю загубіла вайна... «Як жа не любіць гэты велікадушны, добры народ?! Я ганаруся, што маё сэрца належыць яму», — такія вось былі словы Міхаіла Мельніка з вёскі Міхеевічы, што на Міншчыне, былога вязня Маўтхаўзена, падданага каралевы Вялікабрытаніі і цяперашняга жыхара Штутгарта. І, думаю, пагодзіцца са мною чытач, што біблейскія радкі «сябар любіць ва ўсякі час і, як брат, з'явіцца ў гадзіну няшчасця» тычацца і яго.

...Але як бы ні абнадзейвала сустрэча ў Беларускім таварыстве «Радзіма», як бы ўзнёсла ні гучалі яе акорды — адчувалася, што яшчэ адзін удзельнік прысутнічае ў зале. Трывога... Вядома, робяцца захады, каб выратаваць жыхароў Беларусі ад радыяцыі. На дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР зацверджана Дзяржаўная праграма па ліквідацыі вынікаў аварыі. Напрыклад, падчас перадачы медыкаментаў Людміла Марцьянава прывяла лічбу: 8 мільёнаў. Столькі добраахвотных узносаў сабрана ўсімі рэспублікамі толькі па лініі Чырвонага Крыжа СССР і ўжо інвесціравана на вострыя патрэбы абласцей, якія ў першую чаргу абрала мішэнню аварыя. Патрэбныя ж мільярды!.. А час ідзе. Пераганяючы яго з хуткасцю геаметрычнай прагрэсіі, нагульвае знішчальную сілу і пладавітасць нячутны вуху і нябачны воку радыяцыйны смерч-прывід. І ён не пачакае, пакуль Акадэмія навук СССР належным чынам прызнае канцэпцыю беларускіх навукоўцаў... Дарэчы, а якога пункту гледжання ў гэтым рэчышчы прытрымліваюцца вучоныя з ліку замежных супляменнікаў? Ці не паспрабуе хто-небудзь з іх выказаць сваё меркаванне на старонках «Голасу Радзімы»?

### ПАКЛОН МІЛАСЭРНАСЦІ

Міхаіл Мельнік не адзіны ў шэрагу дабрачынных падзвіжнікаў з паўтарамільённай сям'і беларусаў замежжа. Не лішне будзе назваць кожнага паіменна, хто адгукнуўся на «Зварот шасці» пасільным укладам у справу неадкладнай дапамогі жыхарам раёнаў Бацькаўшчыны, якія наймацней пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Мінула шэсць месяцаў з моманту публікацыі «Звароту»...

«Асацыяцыя савецкіх жанчын у Гане з болем прачытала ваш заклік, — піша ад імя арганізацыі Люба Квартэй. — Мы жывём у дзяржаве, якая стала на шлях развіцця, таму прыдбаць дазіметры і лічыльнікі выпраменьвання мы не можам. Іх проста няма. Высылаем неабходныя медыкаменты, толькі б аблягчыць лёс бедных дзяцей».

З удзячнасцю можам пацвердзіць: атрымана з Ганы 1 000 шпрыцаў, 50 сістэм для пералівання крыві.

Ад таварыства «Перисвет» з галандскай правінцыі Брабант Беларускае таварыства «Радзіма» атрымала 1 000 аднаразовых сістэм для аналізу крыві і 125 шпрыцаў. З той жа краіны члены мастацкага калектыву землякоў «Калінка» пераслалі каля 3 000 шпрыцаў. З Бельгіі атрыманы лякарствы.

Прывяду радкі з прыемнага і цікавага ліста Георгія Шынкара са Злучаных Штатаў. «Я і Стэла нарадзіліся ў ЗША, але не забываем зямлю продкаў. Працуем у Дэтройцкім аддзеле таварыства амерыкана-савецкай дружбы. Наш горад — пабрацім Мінска. Мы верым: беларускі народ пройдзе гэтыя цяжкія часы і будзе здаровым і шчаслівым назаўсёды». Дзякуй вялікае, будзем і мы цешыцца надзеяй і гэтыя цудоўныя словы адрасуем перш за ўсё беларускім дзецям, генафонду нацыі. Разам з пісьмом Георгій і Стэла выслалі чэк на 500 долараў, Юлія Багуцка — на 200.

Беларуская праваслаўная царква Св. Ефрасінні Полацкай у Лондане (юрысдыкцыя Канстанцінопальскай Патрыярхіі) пералічыла на валютны рахунак № 705602 Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру 500 фунтаў стэрлінгаў. Мікола Янушэвіч, даўні чытач «Голасу Радзімы», з гэтай жа краіны — 50.

Прыемны водгалас дайшоў да Беларускага таварыства «Радзіма» і з Бельгіі. Тамара Лагунова ахвяравала 20 долараў, Алена Грыгаровіч—5 000 бельгійскіх франкаў, Зінаіда Мурахоўская — 1 000, Марыя Семярэнка — 8 000, Кацярына Мацяшэнка ад імя таварыства — 1 000, Іван Салаўёў — 2 000, Іван Башкатаў — 127 долараў, а Кацярына Штэйн-Дзюпан — 20, Лізавета Канданіколас з Канады пераняла на памянёны рахунак 50 долараў.

Паклон замежным суайчыннікам за дабрату і ахвярнасць! Відавочна, што такія высакародныя ўчынкі — гэта новы рух — аблада перабудовы. І яе барометр. Мы спасцігаем момант ісціны: адмаўляемся ад стэрэатыпаў мінуўшчыны на карысць агульначалавечых вартасцей, гуманізму, права чалавека на любоў да Радзімы. А яна, любоў, недасягальна вышэйшая за палітычныя, сацыяльныя і іншыя адрозненні паміж намі, калі яны ёсць.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## ГРОШЫ З ЧАРНОБЫЛЬСКАГА РАХУНКУ

Асноўныя расходы, звязаныя з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай трагедыі, пакрываюцца з саюзнага бюджэту.

Дзяржаўныя цэнтралізаваныя капітальныя ўкладанні дасягнулі 1,1 мільярда рублёў. Гэтыя сродкі пайшлі на будаўніцтва новых пасёлкаў для перасяленцаў. У выглядзе надбавак да зарплаты, дапамог і кампенсацый ужо выплачана 736,6 мільёна рублёў, у тым ліку 207 мільёнаў у мінулым годзе.

З бюджэту рэспублікі на ліквідацыю вынікаў аварыі накіравана 182 мільёны рублёў. За гэтыя грошы пабудаваны і адрамантаваны ўнутрыгаспадарчыя дарогі, заменена выбракаваная жывёла, набыты дазіметрычныя прыборы, выпушчаны карты радыяцыйнага становішча.

Такім чынам, агульная сума бюджэтных асігнаванняў за чатыры гады склала звыш двух мільярдаў рублёў. Акрамя таго, за кошт сродкаў дзяржаўнага страхавання гаспадаркам і насельніцтву выплачана 116 мільёнаў 700 тысяч рублёў.

Вялікую дапамогу людзям, якія сталі ахвярамі чарнобыльскай бяды, аказваюць працоўныя калектывы, грамадскія арганізацыі, асобныя грамадзяне.

На рахунак № 705803 «Савецкі фонд міру» рэспубліканскага аддзялення Фонду міру з указаннем плацяжа «Дзеці Чарнобыля» паступіла з кастрычніка 1989 года 700 тысяч рублёў. Усе яны пералічаны на паляпшэнне харчавання дзяцей 148 дашкольных устаноў Гомельскай вобласці. Рахунак нумар 707801 «Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна» рэспубліканскага аддзялення фонду адкрыты ў верасні 1989 года, сума паступленняў склала 200 тысяч рублёў.

На рахунак № 000700801 у Беларускім рэспубліканскім банку Знешэканомбанка СССР паступіла 287 інвалютных рублёў, акрамя таго 750 інвалютных рублёў пералічана Беларускаму аддзяленню фонду міру.



**Старажытны Верхні горад у Мінску — гэта дастаткова вялікі раён ад плошчы Свабоды да ракі Свіслач, ад вуліцы Інтэрнацыянальнай да праспекта Машэрава. Ці многа захавалася тут будынкаў ад часоў мінулых! Нямнога. І таму ўпершыню ў практыцы беларускай рэстаўрацыі была выказана ідэя будаўніцтва унікальнага помніка практычна з «нуля». Абапіраючыся на раскопкі археолагаў, на архіўныя матэрыялы, кааператыў «АРК» прапанаваў дэтальны план адраджэння гістарычнага цэнтра Мінска. Як мяркуюць архітэктары, у двухтысячным годзе можа адбыцца рэальнае падарожжа па Верхняму гораду.**

**НА ЗДЫМКАХ: рэстаўратары Людміла ІВАНОВА і Аляксандр КРОКАТАЎ; так некалькі стагоддзяў назад выглядала Святадухаўская царква. У будучыні тут мяркуецца размясціць канцэртную залу і музей старабеларускага мастацтва.**

**Фота У. ШУБЫ.**




## ПРА ШТО НЕ ПІСАЛАСЯ РАНЕЙ

# БЕЗ МІФАЎ І ПРЫНІЖЭННЯ

### МАЛАВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 5, 6).**

Нашаніўцы выпусцілі для сялян брашуры «Зямельная справа Новай Зеландыі» і «Казка аб вадзе», у якіх у даступнай форме расказвалася аб сутнасці капіталістычнага прыгнёту, выкладаліся ідэі сацыяльнай справядлівасці. З той жа мэтай грамадоўцы надрукавалі ў Пецярбургу брашуры «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» (другое выданне) і «Ці хопіць для ўсіх зямлі».

У выданнях БСГ 1906 і асабліва 1907 года мацнелі нацыянальныя матывы. Яны часам выдаюцца гісторыкамі за праяву нацыяналізму ў радах «Грамады». Але з гэтым нельга пагадзіцца. Наадварот, грамадоўцы не раз дэманстравалі сваю павагу да братніх народаў краіны, свой інтэрнацыяналізм. Так, у праграме партыі 1906 года падкрэслівалася, што БСГ аб'ядноўвае «працавітую беднату» Беларускага краю без разбору іх нацыянальнасці. Грамадоўцы імкнуліся да кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой усіх працоўных Беларусі. Нацыяналізм быў несумяшчальны з такімі намерамі. Таму БСГ і выступіла ўпершыню ідэю стварэння ў Беларусі сялянскіх прафсаюзаў не па нацыянальнай, а па прафесійнай адзнацы. Гэта думка абгрунтоўвалася ў артыкуле «Як мужыку палепшыць сваё жыццё», які быў змешчаны ў другім нумары «Нашай долі». Яшчэ раней, у першым нумары гэтай жа газеты, грамадоўцы ад імя беларускага народа заявілі: мы будзем разам з усімі народамі Расіі, якія абвясцілі вайну старым парадкам.

Абвінавачванні дзеячаў Грамады ў нацыяналізме не мелі пад сабой ніякай глебы. Паводле назіранняў аднаго з агітатараў партыі эсэраў, які добра ведаў беларускую вёску 1906 года, мясцовыя сяляне не ставіліся варожа ні да адной нацыі, лічачы ўсіх роўнымі перад богам. Яны пачыналі разумець агульнасць свайго гістарычнага лёсу з іншымі народамі імперыі, неабходнасць сумеснай барацьбы за нацыянальную і сацыяльную роўнасць. Не дзіва, што са 130 наказаў беларускіх сялян у І Думу, якія знойдзены намі ў ленінградскім гістарычным архіве, 6 утрымліваюць патрабаванне аб нацыянальнай роўнасці ўсіх народаў Расіі.

Інтарэс БСГ да нацыянальнага пытання ва ўмовах буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі не вёў да нацыяналізму. Справа ў тым, што само жыццё патрабавала падрыхтоўкі ў межах нацыі, на яе глебе, новых адукаваных барацьбітоў, адзінага агульнарасійскага фронта за сацыяльную справядлівасць. І грамадоўцы, напэўна, гэта разумелі.

Вядома, што летам 1906 года рэвалюцыйныя партыі праводзілі сярод сялян вялікую арганізацыйную работу, ствараючы на вёсках гурткі, ячэйкі, саюзы. Нам пакуль што ўдалося знайсці адзінае сведчанне аб дзейнасці сялянскага аб'яднання пад кіраўніцтвам БСГ — гэта сведчанне паліцыі аб «Беларускім сялянскім саюзе», які ўзнік яшчэ ў канцы 1905 года. Саюз выдаў аднайменную пракламацыю, пасылаў у І Думу сялянскія прыгаворы, якія змяшчалі патрабаванні зямлі, аўтаноміі Беларусі і нацыянальнай школы. Але з задумы стварыць цэлую сетку арганізацый на вёсках у грамадоўцаў, відаць, нічога не атрымалася. Напэўна, партыя не мела для гэтага ў дастатковай колькасці ні грошай, ні кадраў. Таму яна аб'ядноўвала свае намаганні з эсэрамі, заклікала сялян уступаць у арганізацыі Усерасійскага сялянскага саюза.

Вось што, аднак, цікава. Як толькі спад рэвалюцыі стаў цалкам зразумелым, дзеячы Грамады кінуліся ствараць прафесійныя саюзы сялян, аб якіх ужо раней гаварылася. Першыя такія саюзы ўзніклі ў беларускай вёсцы ў 1907 годзе. У адрозненне ад партыйных аб'яднанняў, яны маглі дзейнічаць легальна і абараняць інтарэсы сялянства нават тады, калі рэвалюцыя цярпела паражэнне, а ў краіне лютавалі карныя атрады.

Зусім не выпадкова, што менавіта БСГ прыйшла да ідэі сялянскіх прафсаюзаў. Яна многа ўвагі надавала забастовачнаму руху сялян не толькі ў 1905 годзе. Пад яе кіраўніцтвам праходзіла шмат забастовак летам і восенню 1906 года, у тым ліку і так званыя «бульбяныя». Пры гэтым грамадоўцы сутыкнуліся са слабай згуртаванасцю сялян. А таму звярнуліся да вопыту рабочых у прафсаюзным будаўніцтве і перанеслі яго на сялянства.

Рэвалюцыйная практыка БСГ у 1906—1907 гадах звужалася. Многа яе працаўнікоў было асуджана і трапіла ў астрог або ў высылку. І ўсё ж гісторыя захавала для нас некаторыя імёны тых, хто дзейнічаў сярод сялян і ў пагрозлівыя часы. Пад уплывам Грамады навадворскі народны настаўнік Лідскага павета Сямён Сучко ў студзені 1906 года заклікаў сваіх аднавяскоўцаў дабівацца адкрыцця беларускіх школ. У той жа час у выніку агітацыі грамадоўца Канстанціна Букляровіча сяляне Седлiскай воласці Ашмянскага павета вырашылі не плаціць дзяржаўных падаткаў і не пасылаць дзяцей у царскія школы. У жніўні ражанскі народны настаўнік Міхаіл Аўрамчык выступіў адным з кіраўнікоў забастовачнага руху ў вёсках Лідскага павета. І ў той час (13 жніўня) невядомы агітатар БСГ правёў у вёсцы Нядрэска Мінскага павета сялянскі мітынг.

У сваёй рэвалюцыйнай рабоце грамадоўцы шукалі падтрымкі сярод вясковых настаўнікаў, фельчараў, а таксама студэнтаў, якія прыязджалі да бацькоў на адпачынак. Дзейсна дапамагалі БСГ навучэнцы Маладзечанскай, Свіслацкай, Полацкай, Панявежыскай настаўніцкіх семінарый, хімікатэхнічнай школы і духоўнай семінарыі ў Вільні. Яны працавалі не толькі ў межах сучаснай БССР, але ўсюды, дзе жылі беларускія сяляне.

У маі 1907 года пад уздзеяннем нацыянальна-вызваленчага руху народныя настаўнікі Беларусі сабраліся ў Вільні на з'езд і ўтварылі свой тайны саюз. Яго мэтай стала барацьба за беларускую школу.

Мы ўжо не раз пераконваліся, як у 1906—1907 гадах парламентарызм грамадоўцаў браў патроху верх над рэвалюцыйнасцю. У часы панавання сталінскай ідэалогіі гэты факт лічыўся асноўным доказам таго, што грамадоўцы здрадзілі рэвалюцыі, пайшлі на здзелку з царызмам. Але такое абвінавачванне беларускіх рэвалюцыйных дэмакратаў зусім незаслужанае.

У 1906—1907 гадах сялянскія выступленні на Беларусі праходзілі пераважна пад сцягам эканамічнага і палітычнага націску на памешчыкаў і царскі ўрад, каб дабіцца ад Думы зямельнай рэформы. Аб узброеным паўстанні беларускае сялянства, за выключэннем асобных, найбольш свядомых яго прадстаўнікоў, і не ўспамінала. А калі агітатары заводзілі пра гэта гаворку, то разважліва заяўлялі: вось каб разам дружна падняцца, ці — як усе, так і мы. Перамены ў краіне і ў настроях вёскі прымусілі БСГ мяняць тактыку, шукаць новыя сродкі барацьбы, а таму звяртаць увагу на Думу, пашыраць культурна-асветніцкую дзейнасць. Але гэта зусім не азначала, што грамадоўцы адмаўляліся ад ідэалаў сялянскага сацыялізму, якія [illegible] і ў іх толькі больш рэалістычнымі. Працаўнікі Грамады заставаліся рэвалюцыйнымі дэмакратамі на працягу ўсяго першага этапа дзейнасці партыі (снежань 1903—май 1907). Яе ліберальнае крыло ў гэты перыяд яшчэ не паспела выкрышталізавацца.

Пасля паражэння рэвалюцыі БСГ фармальна была распушчана. Яе працаўнікі гуртаваліся вакол «Нашай нівы», працягваючы адукоўваць вёску ў межах таго, што дазваляла цэнзура.

Першай палітычнай партыі беларускага народа давялося сустрэць на сваім шляху шэраг цяжкасцей. У яе не было дастатковай грашовай падтрымкі з боку маладой яшчэ нацыянальнай буржуазіі, з боку выхаванай у русіфікатарскім духу вясковай інтэлігенцыі, якая часта аддавала перавагу эсэрам, ды і з боку ўсяго беларускага сялянства, пазбаўленага пачуцця нацыянальнай самасвядомасці. У яе не было дастатковага палітычнага вопыту, ідэйнай і арганізацыйнай еднасці.

Можа таму ёй і не ўдалося павесці за сабой у час рэвалюцыі 1905—1907 гадоў усё сялянства Беларусі. Найбольшым уплывам партыя карысталася ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях, дзе не было традыцый абшчыннага (супольнага) землекарыстання, дзе ўзровень асобнапрыватніцкіх адносін быў вышэйшым, а ступень русіфікацыі сялян ніжэйшай, чым на ўсходзе Беларускага краю.

Тым не менш дзеля адраджэння беларускай сялянскай нацыі і яе дабрабыту БСГ на першым этапе сваёй гісторыі дзейнічала ўпарта і паслядоўна, паказваючы часам глыбокае веданне патрэб свайго народа, мудрасць і прадбачлівасць.

**Захар ШЫБЕКА.**

# ЦЭНТРЫ САЦЫЯЛЬНАЙ АДАПТАЦЫІ

Калі б у Беларусі існавала свая кніга Гінеса, у яе можна было б унесці сумны рэкорд: у мінулым годзе ў рэспубліцы зарэгістравана 66,5 тысячы злачынстваў. У апошняй зводцы саюзнага Дзяржкамстата яна ў ліку трох лідэраў. Такога ў БССР не здаралася яшчэ ніколі. Падлічана, што кожнае восьмае правапарушэнне ўчынена асобамі, якія ўжо былі не ў ладах з законам. Гэтыя лічбы назваў на апошнім пасяджэнні часовага камітэта па барацьбе са злачыннасцю ў БССР пракурор рэспублікі Г. Тарнаўскі. Ён падкрэсліў, што рэцыдыўная злачыннасць мае тэндэнцыю да павелічэння.

Справа ў тым, што ў рэспубліку штогод з месцаў адбыцця пакарання вяртаецца каля 15 тысяч чалавек. Думаць, што ўсе яны ў калоніях навучыліся толькі добраму і перавыхаваліся, па меншай меры наіўна.

Пасля працяглых тэрмінаў ізаляцыі чалавек, які адбыў пакаранне, вяртаецца быццам бы на іншую планету. І цяпер усё ў яго лёсе залежыць ад таго, прыме яна яго ці адштурхне. Часцей за ўсё сустракаюць яго няласкава, раўнадушна.

Як правіла, за раўнадушнасць да сябе гэтыя людзі жорстка помсцяць грамадству. На іх рахунку ад 40 да 50 працэнтаў забойстваў, згвалтаванняў, грабяжоў, разбояў, крадзяжоў асабістай і дзяржаўнай маёмасці. Яны ж папаўняюць і без таго растучую групу бадзяг.

Прааналізаваўшы сітуацыю, часовы камітэт па барацьбе са злачыннасцю ў БССР прапанаваў ураду рэспублікі, мясцовым Саветам разгледзець пытанне аб стварэнні цэнтраў сацыяльнай адаптацыі, аб выхаванні такіх грамадзян.

Дзейнасць цэнтраў павінна быць прасякнута гуманнасцю да асуджаных раней людзей. Гэта новая форма нетрадыцыйнага падыходу да вырашэння праблемы. Цэнтры сацыяльнай адаптацыі мяркуецца стварыць у гарадах з насельніцтвам звыш ста тысяч чалавек.

Ураду рэспублікі дадзена даручэнне распрацаваць палажэнне аб цэнтрах сацыяльнай рэабілітацыі і ў бліжэйшы час унесці яго ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі.

**У. ЛЕВІН.**

## А. ВЯРЦІНСКІ: «Я ПЕРАД ВАМІ З ПАМЯЦЦЮ СВАЁЙ»

# НЕ ПА ПЛЯЧЫ, А ПА СУМЛЕННІ

*«...лепшая памяць аб мёртвых — гэта любіць жывых».*
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

Маё знаёмства з паэтам Анатолем Вярцінскім адбылося дзякуючы кнізе вершаў «Вечны ўсход», што выйшла ў 1982 годзе ў выдавецтве «Советский писатель».

Уважліва прачытаў усю кнігу. Аказалася яна сапраўднай знаходкай. Перш за ўсё таму, што ў ёй я ўбачыў шчырую паэзію, здольную ўступаць у кантакт з чалавечымі пачуццямі. Гэта не проста кніга вершаў, а хутчэй за ўсё цэласны твор, напісаны на адным дыханні. Гэта вершы, вольныя ад дробных умоўнасцей, дэкларацыйнасці і рытарычнасці, шматгранныя, з глыбокімі абагульненнямі, насычаныя мудрымі выказваннямі.

**Трэба вучыцца жыць у дзяцей,**
**І яшчэ — у вялікіх людзей.**
**А гэтыя людзі — чыстыя дзеці**
**ў звычайным дарослым свеце...**
**Словам, вучыцца трэба ў дзяцей.**

Аўтар не пажадаў размясціць вершы ў кнізе па храналагічнаму прынцыпу, так што аб творчай эвалюцыі меркаваць па гэтай кнізе цяжка. І ў гэтым ёсць свой сэнс. Вядома, паэт не можа з гадамі не мяняцца: да адных прыходзіць дасканалае майстэрства, да другіх — спакой і мудрасць, трэція не могуць ні з першай, ні з наступных спроб узяць тую вышыню, якая пакарылася ім з самага пачатку.

Зразумела, што кожны сапраўдны паэт імкнецца да адкрыццяў — у сабе, у навакольным свеце, у іншых людзях, у іншых краінах. Аднак колькі паэтаў проста апісваюць свет, не пераходзячы межаў сузіральнага лірызму, ці яго пераказваюць гучнымі словамі, не закранаючы сутнасці. Адчуць і зразумець, што такі прывычны і знаёмы з дзяцінства свет поўны неадкрытых таямніц, гэта і значыць дакрануцца да паэзіі. Справа ж не ў тым, што ты ўмееш сказаць прыгожае слова ці захапіцца прыгожым пейзажам — неабходна творчая ідэя ці, магчыма, шырэй — чалавечая апантанасць, адзіны эмацыянальны парыў, здольныя надаць сэнс твайму жыццю і паэзіі.

А. Вярцінскі ў сваіх вершах разважае з надзвычайнай тонкасцю псіхалагічнага пранікнення ў сутнасць з'яў. Паэт не проста аглядвае жыццё, ён дзейсна шукае і паказвае тую самую залатую кропельку, якая становіцца агульным здабыткам. Бо ў паэзіі вельмі важная сканцэнтраваная эмоцыя пошуку, накіраваная энергія перажывання і таго, што адбываецца навокал, і таго, што здараецца з табою:

**Дзівак чалавек...**
**Глядзіць на расінку макавую**
**і цэлае сонца бачыць перад сабой.**
**Дзівак чалавек...**
**Бярэ звычайную ракавіну**
**і чуе ў ёй акіянскі прыбой.**
**Дзівак чалавек...**
**Бачыць сцяжынку гладкую,**
**а марыць аб трудных,**
**цярністых шляхах**
**з іх круцізною,**
**з іх небяспечнай загадкаю**
**і будзе ісці,**
**пакуль мае сілу ў нагах...**
**Дзівак чалавек...**
**Яму — Хірасіму, Асвенцім,**
**яму, замест імя, —**
**асвенцімскае таўро.**
**А ён паўтарае,**
**што ёсць дабро на свеце,**
**што будзе дабро і**
**што пераможа дабро.**
**Дзівак чалавек...**
**Не можа не спадзявацца,**
**не можа не верыць,**
**не можа ніяк!**
**Дзівак чалавек...**
**І гэта яго дзівацтва —**
**ратунак яго,**
**яго чалавечы знак.**

Вялікае кола праблем закранута ў кнізе А. Вярцінскага «Вечны ўсход».

І ў лірычных адступленнях, і там, дзе аўтар звяртаецца да сучаснасці, — усюды ён застаецца на пазіцыі непрымірымасці да ўсяго нізкага, што зневажае чалавечую годнасць. Уся кніга А. Вярцінскага — падарожжа ў глыб жыцця і ўласнай душы, і адпраўным пунктам у гэтым падарожжы з'яўляецца для паэта бацькоўскі дом, мікрасвет унутры вялікага свету, а спадарожніцамі — вера і надзея:

**...Самы радасны сон**
**сніцца ў роднай хаце...**
**Радасны перазвон,**
**радасны голас маці...**

Кожная птушка любіць сваё гняздоўе. Анатоль Вярцінскі ж — родную Беларусь, яе неаглядныя палі і лясы, зялёнае полымя бяроз, спакойныя, чыстыя рэкі і свой працавіты народ. Пра што б ні пісаў А. Вярцінскі — аб лясных кветках ці азёрах, аб гісторыі ці аб першым каханні, аб дарогах дзяцінства ці падарожжах сталасці — усё гэта яго радзіма, бясконца мілая сэрцу паэта. Вялікі талент — напісаць так, каб чалавеку, які не быў ніколі на старажытнай беларускай зямлі, захацелася абавязкова прыехаць сюды, убачыць яе.

У вершах А. Вярцінскага няма марнаслоўя, паспешлівасці, наўмыснай «разумнасці», жадання выставіць сябе напаказ.

А што ёсць?

Прастата — самая нечуваная, проста ерэтычная прастата. Як у прыродзе пра-

---

ПАХОДЖАННЕ ГЕАГРАФІЧНАЙ НАЗВЫ

# ЧАМУ ГОРАД МАЗЫРОМ З[illegible]ВЕЦЦА

Згодна з найбольш абгрунтаваным на сённяшні дзень тлумачэннем назвы Мазыр, яе вытокі трэба звязваць з найменнем этнаграфічнай групы заходнеславянскага (польскага) насельніцтва — мазуры. Такое тлумачэнне сапраўды мае важкія падставы. Даследаванні апошніх гадоў сведчаць аб этнічных кантактах паміж усходнімі і заходнімі славянамі яшчэ ў VIII-X стагоддзях. У XI-XII стагоддзях актывізуюцца гандлёва-эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі заходніх славян з насельніцтвам Беларусі. У адзначаны час, як можна меркаваць, закладваліся асновы для ўзнікнення шматлікіх геаграфічных назваў Беларусі ад этнічных найменняў ляхі і мазуры. Толькі на Палессі ёсць 12 такіх назваў. Гэта вёскі **Ляхавічы** (Жыткавіцкі, Драгічынскі, Іванаўскі раёны), **Ляхаўцы** (Кобрынскі, Маларыцкі раёны), хутар **Ляхава** (Пінскі раён), горад **Ляхавічы** (Брэсцкая вобласць), вёскі **Мазуры** (былы Мазырскі павет, Ельскі, Кобрынскі раёны), **Мазуркі** (Ляхавіцкі раён), **Мазуршчына** (Светлагорскі раён). Гэтыя геаграфічныя назвы маглі ўзнікнуць толькі пры наяўнасці большых ці меншых груп польскага насельніцтва або асобных перасяленцаў у адзначаных раёнах. Аднак зусім не абавязкова ўсе назвы адносіць да старажытнарускага часу, да VIII-XII стагоддзяў.

У другой палове XIV стагоддзя палякі з'явіліся на землях Вялікага княства Літоўскага ў якасці палонных пасля [illegible]ых паходаў літоўскіх к[illegible]еў на Польшчу. Ёсць даныя, якія сведчаць, што колькасць палякаў у межах тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў той час складала каля 23 тысяч чалавек.

Перасяленні палякаў на ўсход і паўднёвы ўсход участоціліся пасля аб'яднання Літвы і Польшчы ў 1386 годзе і сталі асабліва інтэнсіўнымі ў выніку Люблінскай уніі 1569 года, калі ўсе беларускія землі падпалі пад уладу Рэчы Паспалітай.

Каб вызначыць дакладны час паходжання таго ці іншага населенага пункта, у назве якога адлюстраваліся найменні **ляхі** і **мазуры**, трэба карпатлівая работа ў архівах і на месцы, гэта значыць, у самім населеным пункце. Але ёсць і іншыя магчымасці, не менш надзейныя. Напрыклад, вядома, што этнічнае найменне **мазуры** сустракаецца ў пісьмовых крыніцах толькі з XV стагоддзя. Адсюль вынікае, што вёскі **Мазуры, Мазуркі, Мазуршчына, Мазурышкі** і іншыя па ўсёй Беларусі не маглі атрымаць сваю назву раней гэтага часу.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

---

# СУПРАЦОЎНІЦТВА МАСТАЦТВАЗНАЎЦАЎ

Праблемы культуры Вялікага княства Літоўскага абмяркоўваліся на міжнароднай навуковай канферэнцыі, праведзенай Інстытутам гісторыі мастацтва ў Варшаве. На працягу тыдня вучоныя Варшавы, Познані, Мінска, Гродна, Вільнюса, Каўнаса, Рыгі праслухалі больш дваццаці дакладаў. У завяршэнне канферэнцыі ўдзельнікам была дадзена магчымасць пазнаёміцца з экспазіцыямі каралеўскіх замкаў у Варшаве, Вілянаве, Небараве.

Сустрэча ў Польшчы з'яўляецца своеасаблівым адказам на праведзеную ў 1988 годзе сумесную канферэнцыю па старажытнаму мастацтву Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і Інстытута гісторыі мастацтва Польскай акадэміі навук. Сёлета два інстытуты сустрэнуцца ў Мінску на канферэнцыі, прысвечанай культуры Беларусі XIX стагоддзя.

**Н. ВЫСОЦКАЯ.**

---

БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РОК ЗАЯЎЛЯЕ АБ САБЕ

# ЧЫМ БОЛЬШЫ ЦІСК, ТЫМ ЦВЯРДЗЕЙШЫ АЛМАЗ

Калі ў пачатку 80-х гадоў, абараніўшы дыплом журналіста па тэме музычнай крытыкі, я рынуўся ў гэтую стыхію, з групай аднадумцаў наважыліся зрабіць новы тых часах крок: даць нашым чытачам інфармацыю пра савецкую рок-музыку, навучыць аналізаваць яе, а не проста адкідваць, не прызнаваць. Справа ў тым, што для афіцыйнага істэблішменту, ды і для некаторых пластоў грамадства тады папросту не існавала савецкага рока. Выданні пераважна былі запоўнены стандартнай гістарыяграфіяй трагедый заходняга мастацтва, якое дэградуе ў свеце бяздушнага бізнесу.

Пэўную падтрымку знайшлі мы ў беларускай маладзёжнай газеце «Чырвоная змена». Менавіта тут чытач упершыню пачаў з захапленнем удзельнічаць у распачатых тады рэгулярных хіт-парадах. Упершыню прыйшло здзіўленне, чаму ў публікацыях беларускай газеты па такім масавым жанры музыкі пры ўсёй шырыні геаграфіі бачання (Кемерава, Талін, Масква, Вільнюс) амаль цалкам адсутнічае Беларусь.

Пачалі цікавіцца канцэртамі ў студэнцкіх клубах і час ад часу траплялі на прыемныя знаходкі: у інстытуце народнай гаспадаркі пазнаёміліся з рок-гуртам «Блізняты», у тэатральна-мастацкім — са «Студыяй-7»... Адны ігралі авангардны сімфа-рок, а другія — актуальнейшую хвалю.

Гэта быў перыяд 1983-1984 гадоў. Тады яшчэ ніхто не думаў пра беларускі рок (г. зн. у першую чаргу — на роднай мове). Задавальняла ўжо наяўнасць майстэрства і інтэлекту.

Праўда, якраз у той час у Мінску загаварылі пра «Мрою» з мастацкага вучылішча, што цалкам вырашыла перайсці на беларускую мову. Аднак распаўсюджаныя касеты былі жахліва няякаснымі, а паслухаць калектыў усё не атрымлівалася.

У 1984 годзе, нягледзячы на адсутнасць афіцыйнай рэгістрацыі, рок-клуб у Мінску ўжо існаваў. Ва ўсякім разе, канкрэтныя вынікі працы былі. А ў 1985 быў нарэшце створаны аргкамітэт Мінскага рок-клуба, які з дапамогай аддзела культуры ЦК ЛКСМ Беларусі правёў устаноўчы сход новага аб'яднання. Ён адбыўся ў памяшканні кафэ-клуба «Сузор'е» з удзелам «Бонды», «Блізнятаў», «Магістрата», «Архіва» і г. д. Гэтыя калектывы склалі касцяк клуба.

Цікавым было адкрыццё «Магістрата». Іх, шчыра кажучы, ніхто не запрашаў на ўстаноўчы сход, бо не ведалі. Ужо падчас праслухоўвання кандыдатаў падышлі два юнакі і прапанавалі паслухаць іх. Першыя гукі музыкі гэтых выканаўцаў напоўнілі залу сакавітай і напружанай атмасферай цяжкага, але меладычнага рока. У размове з імі высветлілася, што юнакі — на прафесіянальным шляху ў музыку. Вывучаюць фальклор у Мінскім культасветвучылішчы. Праўда, кажуць, цяперашняе наша выступленне можа пакінуць уражанне, нібыта да фальклору ў нас фармальнае дачыненне: маўляў, рок жа не спяваем па-беларуску. Але мара ёсць, ды тэкставіка добрага няма.

Над імі ўзяў шэфства вядомы цяпер паэт Анатоль Сыс і хутка дапамог групе (па яго парадзе яна і ўзяла назву «Магістрат») цвёрда стаць на ногі, заваяваць аўтарытэт. Праўда, і тут рок-клуб чакала страта: праз два гады хлопцы скончылі адукацыю, атрымалі дыпломы і раз'ехаліся па розных кутках краіны. «Магістрат» надоўга знік з нацыянальнай рок-сцэны.

І ўсё ж, калі ў красавіку 1986 года на першым у рэспубліцы рок-фэсце «Тры колеры» адбылося афіцыйнае адкрыццё рок-клуба «Няміга», выступілі менавіта «Магістрат», «Бонда» і група «Мінск». Праўда, яны не змаглі выступіць з поўнымі праграмамі, а выканалі толькі некалькі песень. На папярэднім праглядзе афіцыйная камісія зрабіла строгую рэвізію.

Некаторыя групы ўвогуле не дапусцілі да выступлення, гадзінная праграма «Магістрата» скарацілася да трох песняў, «Мінска» — да чатырох. Не нашмат лепш абышліся і з «Бондай». А аргументы былі проста больш чым суб'ектыўныя: «Не адпавядае музыка тэкстам... Слаба даходзіць сэнс песень... Чаму выключна ўсё на белрускай мове? Гэта ненармальна».

Між тым, нягледзячы на розныя неспрыяльныя абставіны, у рок-клубе, які размясціўся ў Мінскім палацы культуры чыгуначнікаў, ішла звычайная работа: абмяркоўваліся новыя творы, вырашаліся арганізацыйныя праблемы. Сустрэчы з прафесійнымі паэтамі і музыкантамі адкрывалі новыя далягляды творчага супрацоўніцтва.

Але да знешніх праблем далучыліся і ўнутраныя. Яўна не ўсім падабаўся той пункт статута «Нямігі», дзе звярталася ўвага на развіццё нацыянальнай рок-плыні. Маўляў, пры чым тут нацыянальнае, калі рок — гэта з'ява інтэрнацыянальная.

Пачаўся раскол, у выніку якога шэраг гуртоў, стаўшы на ногі пад апекай «Нямігі» і маладзёжнага цэнтра «Крыніца» ЦК ЛКСМБ, пры якім яна працавала, пакінулі клуб, стварыўшы альтэрнатыўную суполку. Новы цэнтр атрымаў назву «Арыенцір». Тым часам «Няміга» пазбавілася памяшкання — яе часова перавялі ў Палац культуры Белсаўпрофа, а потым... пачалі пераводзіць у кафэ «Алімпійскае», ды тут разваліся, а там не прынялі. Гульня скончылася стратай яшчэ некалькіх калектываў. Суполка, якая разраслася

стата натуральна і ненадакучліва хавае ў сабе глыбіню, што адкрываецца толькі ўважліваму і цікаўнаму погляду, так і вершы А. Вярцінскага глыбокія і мудрыя ў сваёй прастаце.

**Мы знаем: ёсць дуб на Свіцязі.**
**Пад кронай яго велічавай**
**шыльда — маўляў, не рыйцеся:**
**«Ахоўваецца дзяржавай».**
**Царкоўка сівая, нахіленая,**
**з макаўкай жоўта-іржавай.**
**І тут жа заўвага пільная:**
**«Ахоўваецца дзяржавай».**
**Душа — сабор з сабораў,**
**храм боляў,**
**любовей,**
**жалю...**
**Дайце ёй быць сабою.**
**«Ахоўваецца дзяржавай».**

Дапытлівая думка з'яўляецца характэрнай рысай паэзіі А. Вярцінскага. Яго лірычны герой па-філасофску асэнсоўвае сваё месца ў жыцці. І гэта шлях самапаглыблення асобы, якая пазнае сябе, спасцігае сэнс падзей свайго часу, жыва адчувае сваю датычнасць да іх. Вершы А. Вярцінскага паказваюць, наколькі бязмежны для інтэлектуальнай асобы працэс самапаглыблення.

Сам час росквіту і актывізацыі асобы, узбагачаючы душу, патрабаваў ад паэта самастойнасці мыслення, глыбіні аналізу з'яў. Перш за ўсё гэта садзейнічала філасофскаму паглыбленню яго грамадзянскай лірыкі. Нельга сказаць, што паэт зусім адмовіўся ад апісальнасці, але ён усё больш і больш імкнецца да філасофска-аналітычнага пачатку.

Для многіх вершаў А. Вярцінскага характэрны ўнутранае свячэнне слова і сувязь асацыяцый, якія перадаюць сімволіку і падтэкст, што з'яўляюцца прыкметамі сапраўднай паэзіі.

Паэт — у дарозе, ён пастаянна адкрывае свет і сябе ў ім. Лірычны герой А. Вярцінскага заўсёды паказвае сплаў грамадскага і асабістага пачаткаў у іх арганічным адзінстве. Паэту ўласціва абвостранае пачуццё да трывог нашага стагоддзя:

**...Памінаем Яе.**
**А Яна магла б жыць,**
**наш сусед.**
**А Яна магла б жыць,**
**дарагія мае сяльчане,**
**калі б болей прыязным**
**быў вясковы ваш свет,**
**каб часцей вы Яе**
**чалавечай павагай страчалі.**
**Памінаем Яе.**
**А Яна магла б жыць,**
**сват і брат,**
**калі б мы, дарагая радня,**
**даражылі Ёй болей,**
**каб Яе, дарагая сям'я,**
**мы любілі на добры лад,**
**так, як любім сябе, —**
**не было той любові.**

Перад намі думаючы чалавек, здольны з шматструннага інструмента сваёй душы здабыць розныя мелодыі. Гэты чалавек ведае ўдачы і страты, перамогі і паражэнні, узлёты і падзенні, ён здольны не рытарычна, а вельмі натуральна, зусім па-зямному любіць людзей. Думка аб вечнасці жыцця, паэтычнае сцвярджэнне таго важнага факта, што ў духоўным жыцці чалавека нішто не знікае бясследна, пранізвае большасць вершаў паэта.

У яго вершах ёсць смеласць, але няма павышаных інтанацый, ёсць вытанчанасць, але няма снабісцкай замкнёнасці ў праблемах формы, ёсць глыбіня роздумаў аб самым важным і трывожным у нашым свеце, але няма рыторыкі і вершаванага пераказу ўчарашніх газетных артыкулаў. Ён умее трансфармаваць бачны, поўны гукаў навакольны свет і пры гэтым пакінуць яго пазнавальным, адкрыць у ім нешта новае, а менавіта — тонкія, але моцныя сувязі паміж тым, што здавалася нам асобным. Свет у яго вершах паўстае і дробным, і адзіным, цэльным. А галоўнае, сагрэтым чалавечым цяплом і адухоўленым.

Вершы гэтыя — біяграфія пачуццяў, перажыванняў, хваляванняў і клопатаў аўтара.

А. Вярцінскі заўсёды і ва ўсім ідзе ўласным шляхам, не паддаючыся таму, што супярэчыць прыродзе яго таленту.

Многія яго вершы прысвечаны вечнай тэме кахання. Але гэта такая тэма, што разважаць аб ёй я не буду: пра каханне можна гаварыць толькі вершамі, настолькі гэта асабістае, не прызначанае для халоднага разбору ці раўнадушнага пабочнага погляду. Я толькі не ўтрымаюся і прывяду цалкам адзін сапраўды цудоўны верш:

**Калісьці, днямі асеннімі,**
**хаваючыся ад сцюж,**
**прыйшлі сюды і аселі мы:**
**ты і я — твой муж.**
**Думалі: скончацца сцюжы,**
**змоўкнуць вятры ў палях,**
**і зноў мы — ў шлях засмужаны,**
**і зноў мы — ў далёкі шлях.**
**Стала навокала светла,**
**ні восені, ні зімы...**
**А мы ўсё жывём аседла,**
**і ў шлях не збіраемся мы.**

Калі нараджаецца паэт? Нявырашаная загадка не толькі для гісторыка літаратуры, але часам і для самога творцы. Ды і ці трэба вырашаць гэтую загадку, ці так ужо важная дакладная дата. Значна больш істотнае тое, што паэт ясна і дакладна разумее сваё прызначэнне ў грамадстве, сэнс сваёй працы. Чытач, беручы ў рукі кнігу, нават не здагадваецца, колькі за кожным радком крыецца нервовага напружання, бяссонных начэй. І як нямнога выпадае мінут радасці творчасці, таму што кожны напісаны радок паэт уяўляў сабе і больш пераканаўчым, і больш важкім, чым той, што пакладзены на белы аркуш паперы.

Гавораць, з гадамі расце майстэрства. Але што такое майстэрства, як не найвялікшая адказнасць за слова?

Менавіта з такой узрослай, я б сказаў, і павышанай патрабавальнасцю да свайго слова прыйшоў у беларускую літаратуру А. Вярцінскі. І таму памыляюцца тыя, хто думае, быццам яго шлях быў больш гладкім, лёгкім, чым у пісьменнікаў першых пасляваенных гадоў. Мне думаецца, гэты шлях быў цяжкім, складаным, таму што з кожнага, хто прыходзіць пазней, патрабуецца ўжо больш. Такая суровая гістарычная заканамернасць, якой не пазбегнуць, не абысці, калі ты сапраўдны паэт.

Не абышоў яе і А. Вярцінскі. І нічога не выкрэсліш з яго творчага арсенала — ні энтузіязму маладосці, ні ранніх зморшчын роздумаў, ні вялікага пачуцця адказнасці. Ён ніколі не шукаў лёгкіх дарог, не прасіў скідак на маладосць, а накіроўваўся наперад па самых цяжкіх дарогах, прымаючы на сябе ношу часта не па плячы, а па сумленні. Менавіта гэта дапамагло яму паўнапраўна ўвайсці ў беларускую літаратуру, заваяваць любоў чытачоў, іх давер і павагу.

Творчасць А. Вярцінскага займае ў беларускай паэзіі асобае месца, якое належыць яму аднаму.

**Фелікс БАХЧЫНЯН.**

дзесьці да паўтара дзесятка калектываў, захавала толькі 5-7 гуртоў аднадумцаў.

Ужо ў друку пачалі з'яўляцца задаволеныя сентэнцыі «добразычліўцаў», якія «так і думалі, як здарылася: няма чаго было раздуваць сур'ёзныя гульні ў нацыянальную культуру на дробнаводдзі рока, а проста даваць моладзі адпачынак».

Аднак высновы былі паспешлівыя. У гэтым пераканаў 1988 год, калі ў саюзе з «Талакой» рок-клуб «Няміга» арганізаваў мастацкую частку I Вальнага сойму беларускіх нефармальных суполак, а потым, у маі, правёў II рок-фэст «Тры колеры» з удзелам замежных гасцей (прыязджалі музыканты, журналісты і прадстаўнікі фанаграфіі ПНР).

Прадбачу пытанні: рок-клуба ж ужо няма, дзе вы базіруецеся? Колькі ў вас калектываў?

Адказ будзе просты: у нас цяпер няма пастаяннага памяшкання, гэта так; але ж ніхто не стане сцвярджаць, што яднала нас толькі памяшканне. За час сумеснай работы ўсталяваліся трывалыя сувязі. Мы больш не збіраемся цягнуць кагосьці за вушы ў беларускі рок. Нацыянальная свядомасць — справа ўласнага сумлення. Да нас самі далучыліся «Рэй», «Магічны крышталь», «Рокаш» (які, на жаль, хутка распаўся), падтрымалі нас і барды.

Зараз ідэя гарадскога рок-клуба сапраўды перарасла сябе. Барды і рок-гурты з Гомеля (Вольга Цярэшчанка, Едрусь Акулін, «Белы крук»), Наваполацка (С. Сокалаў-Воюш, «Мясцовы час»), Рэчыцы («Магічны крышталь») і іншых гарадоў ужо цесна супрацоўнічаюць з «Нямігай». Сказаць хоць бы тое, што мінскі «Рэй» выконвае шэраг песень на вершы гамяльчаніна Едруся Акуліна, а рэчыцкі «Магічны крышталь» выступае ў Мінску на апаратуры наваполацкага «Мясцовага часу». А той жа «Мясцовы час» адкрыла, далучыла да нацыянальнай рок-эліты мінская «Мроя» падчас сваіх гастроляў у Наваполацку. Узаемадапамога і думка пра нацыянальнае адраджэнне стала галоўнай ідэяй сённяшняй «Нямігі». Толькі цяпер гэта ўжо не рок-клуб, а беларуская нацыянальная рок-асацыяцыя «Няміга».

Усё гэта не азначае, што зніклі праблемы. Сёлета ў замежных беларускіх выдавецтвах «Пагоня» (Таронта) і «БІНіМ» (Нью-Йорк) выйшла кніга «Праз рок-прызму», дзе асобным раздзелам стала гісторыя станаўлення і развіцця нацыянальнай рок-плыні на Беларусі. Выдаўцы ўжо прадбачаць рост попыту менавіта на беларускі рок у свеце, а нам няма дзе зрабіць якасных фанаграм.

Адбыліся першыя паспяховыя гастролі «Бонды» ў Польшчы, агенцтва «Альма-Арт» запрашае яе зноў.

Але трэба думаць пра заўтрашні дзень, каб потым не даганяць сённяшні.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

**НА ЗДЫМКУ:** калектыў «Контур» з Гродна.

Фота Ю. СМАЛЯ.



## НА ВЕЧАРЫНЕ АЎТЭНТЫЧНАГА ФАЛЬКЛОРУ

# ТАНЕЦ—НЕ РАБОТА, ХТО НЕ ЎМЕЕ—САРАМОТА

— Добры вечар, браточкі! Колькі вас тут сабралася—як тых дроў у лесе!—весела вітаў прысутных можны Лявон, адразу чымсьці нагадаўшы ка... ткевічаўскага Дубатоўка з ...ікага палявання...». Вось так, ...з'яўленнем гасціннага гаспадара з гаспадыняй — Лявоніхай, на сцэне мінскага Дома літаратара і пачалася вечарына аўтэнтычнага фальклору, прысвечаная Брэсцкай вобласці.

Яшчэ да пачатку канцэрта адчувалася непасрэднасць і добры настрой артыстаў. У холе, дзе мы фатаграфаваліся разам, проста ў вачах мільгацела ад чырвона-белых святочных строяў. А потым гэты стракаты натоўп з песнямі, прытанцоўваючы на хаду, пачаў уліваца ў залу.

Як паведамілі вядучыя, вясёлыя артысты прыбылі з Кобрынскага раёна: адна група — з вёскі Балоты, другая — з Дзівіна. І вось гэтыя самыя вясковыя спевакі і музыкі, якія, напэўна, і не вучыліся нідзе спецыяльна, здолелі паказаць сапраўдны спектакль.

Гледзячы на сцэну, няцяжка было ўявіць, як сядзяць радком аднавяскоўцы, сабраўшыся пасля работы да гасцінных гаспадароў у хату, і кожны займаецца сваёй справай: хто кудзелю чэша, хто шые, хто пляце кошыкі з лазы. І яшчэ — усе спяваюць, прыгожа і зладжана. Лёгка было ўявіць, і як цягнуць сваю песню пасля жніва, седзячы на пожні каля звязаных снапоў жыта. Менавіта такі спектакль паказалі артысты-балацяне.

А калі іх змянілі дзівінцы, то гледачы перанесліся ў іншы час на шмат гадоў назад, таму што такія касцюмы ... праўды, калі і ўбачыш, то ...кім-небудзь этнаграфічным музеі. Толькі на жывых людзях яны робяць куды большае ўражанне.

Як растлумачыла кіраўніца ансамбля, гэтым вопраткам не менш як па 10 гадоў, артысты падаставалі іх з куфраў сваіх бабуль і матуль — можна сказаць з хатніх музеяў. Белыя вялікія намiткі і чырвоныя кольцы вакол галавы, фартухі, лапці на нагах — усё гэта мае свае назвы: плат, кыпалка, пастолы. Гэта па-палеску, таму што і песні, і гаворка ўсіх артыстаў — на меладычным палескім дыялекце. Да таго ж, большая частка дзівінцаў—людзі ва ўзросце, і гэта яшчэ больш падкрэслівала ўрачыстасць і значнасць іх выступлення.

Пелі яны больш святочныя песні: да свята пачатку жніва, да вяселля і г. д. І хоць і не вельмі адпрацаваныя былі іх рухі, хоць усё было прасцей, чым у прафесійных выканаўцаў, але менавіта гэта надавала натуральнасць — верылася, што так яны маглі выступаць і дзе-небудзь у роднай вёсцы.

І вось, нарэшце, пачаліся танцы. Як сказаў востры на слоўца Лявон, «танец — не работа, хто не ўмее — сарамота!» Вясёлая Лявоніха выцягвала на сцэну гледачоў з залы, артысты танцавалі, хто як мог, а зала гула. Калі пасля канцэрта танцы перакінуліся ў хол, то ўжо ўсе, хто хацеў, кружыліся і скакалі разам з артыстамі пад бубен і гармонік.

Тут з'явілася магчымасць бліжэй пазнаёміцца з гасцямі, і я адважылася задаць некалькі пытанняў адной з дзівінскіх спявачак.

— Ці даўно вы ў Мінску?

— Толькі ўчора прыехалі.

— А дзе выступалі дагэтуль?

— Многа дзе: і ў Ракітніцы, і ў Кобрыне, і ў Брэсце.

— Ці часта даводзіцца спяваць разам?

— Як які-небудзь сход ці свята.

— А за працай?

— Ну, гэта заўсёды. Бывае, паполеш буракі, зморышся. «Давайце, жанчыны, спяваць!» — сядзем і спяваем.

— Ці апранаеце калі свае касцюмы дома?

— Не, яны ж такія старыя, шкада.

— Прабачце, колькі вам гадоў?

— Яшчэ адзін гадочак да шасцідзесяці застаўся.

Гэтае кароткае інтэрв'ю дала Кацярына Дзімідзенка. Яна на пенсіі, але ахвотна выступае ў сваім ансамблі і вельмі добра выглядае.

Калі надышоў час разыходзіцца і артысты запелі «Бывайце здаровы», то і самі гледачы адразу падхапілі песню, таму што адчувалі вялікую ўдзячнасць да гэтых людзей, якія змаглі паказаць сапраўдныя вытокі нашай культуры.

Я вельмі рада, што змагла пабываць на адной з такіх вечарын, прысвечаных фальклорнай творчасці розных абласцей Беларусі. Гэты агляд фальклору пацвердзіў, што ў нас яшчэ ёсць аснова для таго, каб пасапраўднаму адрадзіць сваю культуру.

**Вольга БАБАК.**

# АД ТАВАРЫСТВА КНІГАЛЮБАЎ

Нядаўна створана Беларускае аддзяленне фонду славянскай пісьменнасці. Рэспубліканскае праўленне таварыства кнігалюбаў вырашыла аказаць гэтай маладой арганізацыі некаторую матэрыяльную дапамогу і пералічыла фонду 500 рублёў.

У канцы лютага вялікая група работнікаў культуры нашай рэспублікі правядзе Тыдзень Беларускай ССР у Маскоўскім ваенным гарнізоне. Прымуць удзел у ім і кнігалюбы. Воінам будуць перададзены ў дар бібліятэчкі беларускіх кніг, якія збяруць члены таварыства ў Мінску.

Наш друк не раз пісаў аб выдатнай ідэі выдавецтва БелСЭ узнавіць Біблію Ф. Скарыны. Праца гэта карпатлівая і вельмі дарагая. Многія арганізацыі ўжо пералічылі выдавецтву сродкі на такую высакародную справу. Дапамагчы ў выданні і распаўсюджанні факсімільнай Бібліі палічылі за гонар і кнігалюбы. Рэспубліканскае праўленне таварыства аматараў кнігі пералічыла выдавецтву 15 тысяч рублёў, удзельнічае ў арганізацыі падпіскі на скарынінскую Біблію.

**Л. СМОЛІЙ.**

